# НАВІНКІ

19 - 29 кастрычніка 1999 №11(19) Кошт свабодны

# «Марш Свабоды»

## Як і чакалася, на вуліцы Менску выйшла роўна 100 тысячаў чалавек:

## 6423 дэманстранты і 93577 супрацоўнікаў МУС



# «Рэзананс» як фактар дэмакратычнай рэвалюцыі

Вам не падаецца, што гамаюну Зімоўскаму таксама перападае добры кавалак ад даляравага пірагу, якім ЦРУ рэгулярна пічкае беларускую апазыцыю? Як прыклад – колькі цытатаў з апошняга выпуска «Рэзанансу», прысьвечанага сярод іншага разбору палётаў на «Маршы Свабоды»: «Малалетнія адмарозкі арганізавалі вулічныя беспарадкі... Аплочаныя валютай баевікі закідвалі міліцыянтаў каменьнямі,.. абучаныя малойчыкі падпальвалі і ўзрывалі» і г.д і да т.п. у тым сама духу.

Для прышчавых тынэйджэраў лепшай раскруткі апазыцыі цяжка прыдумаць. Сядзіць недзе такі аболтус перад яшчыкам і, калупаючыся ў носе, раскідвае мазгамі: што б такэ зробіты калі няма работы, ды ўвогуле з каго ляпіць жыцьцё. І вось на вочы яму патрапляюцца прагоны БТ пра «пазытыўную моладзь». Што бачыць наш сапляк на блакітным экране: чарговы рэпартаж пра інфантылаў, якія гарбацяць на МТЗ за 20 даляраў у месяц і стабільна пяты год абмяркоўваюць пэрспэктывы расейска-беларускай інтэграцыі. Адным словам, калдовы прымітыў. Хіба гэтага прагне душа маладога разгільдзяя? Яму падавай нешта такое, каб можна было б на тусоўцы зарысавацца, перад гірлой папантавацца. А якая ж клюне на фотку на Дошцы гонару ці партбілет БПСМ.

І тут як па заказу ў эфір выходзіць «Рэзананс» з чаргвым ролікам пра дэбошы апазыцыі, дзе крутыя чувакі арганізуюць несанкцыянаваныя шэсьці, гасяць АМАП, падпальваюць, узрываюць, праходзяць тэніроўкі ў

На стар.4

17 кастрычніка арыштаваныя 2 супрацоўнікі газэты «Навінкі»

стар.2




Чаму прыкрылі газэту Жука-малодшага.

Стар.2




MTV – КОМІКС НА СТАР. 4-5

*На футбольным полі ў Лужніках разварочвалася баталія між зборнымі Расеі і Украіны. А тым часам...*

*Стар. 2-3*



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5000 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 18.10.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2048

Наша Свабода

Як вырабіць гексаген з бульбы – стар.3
Где купить дешевый героин – стр.4
Вільгельм Кубэ любіў дзяцей – стар.8

Забі маскальскага сабаку

Кто в теремочках живет?

Столичные дачники развращают пенсионерок

Лука – дурак

Пазьняк – круты чувак!

Где завербоваться в армию Басаева на территории Беларуси

Курс наўбалага долара на «чорным рынку» 590 000

# Прыкрылі лавачку

## Спроба беларускага Плэйбою правалілася

Наезд дзяржавы і закрыцьцё *Навінаў* сп.Жук прыняў гэтак жа спакойна, як сьвяты Пётар Дэкрэт імпэратара Нэрона, паводле якога апостала былі павінны скарміць у Калізэі шаблязубым тыграм. У Жука ў кішэні даўно быў загатоўлены запасны варыянт – праект *Наша Свабода*. У лепшых традыцыях саўковых ценявікоў газэту зарэгістравалі на імя сына Паўла Жука – дваццацігадовага Зьміцера, студэнта факультэта міжнародных адносінаў БДУ.

На факу Зьміцер Жук праслыў як плэйбой і кінг тусоўкі. Нашчадак мэцэната, ён ніколі ня меў пытаньняў з бабуленцыяй і мог запраста дазволіць сабе адсьцягнуць бамжу недапітую бутэльку «Крыніцы». Пакуль ягоныя пагодкі пілілі сабе венікі, каб ня йсьці ў войска, або гегемонілі на заводах за кватру чарнілаў, Зьміцер сэмэстрамі клубіўся ў «Рэзэрвацыі» і куціў з гетэрамі на «Рэактары». Ня дзіўна, што юнак ня ведаў жыцьця плебсу. Па прастаце душэўнай Зьміцер лічыў, што маркі ЛСД можна набыць у аддзяленьнях сувязі. Вось гэты самы чалавек адной цудоўнай раніцай прачнуўся флагманам свабоднай прэсы.

Яшчэ 20 з гакам гадоў таму П'ер Рышар давёў у камэдыі «Цацка», што ўсе маладыя багатыя нашчадкі маюць маніякальную любоў да журналістыкі. Жук-юніёр, атрымаўшы нахаляву цэлую газэту з калектывам, вырашыў гучна заявіць пра сябе як пра дастойнага пераемніка працоўнай жукаўскай дынастыі.

«Нашчадак Туцьці» борзда ўзяўся за справу. Але што можна было чакаць ад зялёнага барчука? Жахлівы кактэйль з газэтаў *Двое* і *Совершенно Секретно*, разбаўлены на чвэрць *Нашай Нівай*.

Як запісацца ў войска вахабітаў, дзе нахаляву прыдбаць наркату, як пэнсіянэркі аддаюцца дзяржаўным чыноўнікам – вядро адкравеннай брыдоты зьбіраўся апракінуць на чытачоў гэты малойчык.

Але ў справу апэратыўна ўмяшалася дзяржава. Чыноўнікі ў зародышы прыпынілі сьмелыя экспэрымэнты Жука-2 і прэвэнтыўна прыкрылі *Нашу Свабоду*.

І дзялоў-та!

**Сяргей Паўлоўскі**



Жук-малодшы (другі зьлева) ў кампаніі сваіх субутэльнікаў на мажорскай вечарыне ў клюбе «Юла»

# Паляваньне на джынаў

## *Старык Хатабыч стаўся закладнікам антывахабіцкай гістэрыі*

На днях чуў, як у сталоўцы нейкая матрона спрытна асадзіла капрызнага сьвінёнка: «Еш кашу, каму кажу. Ня будзеш есьці – прыйдзе злы вахабіт і вазьме цябе ў закладнікі». Пачуўшы пра пляны дудаеўцаў, капрызны малец адразу кінуў свае конікі й кінуўся давіцца вадзяністай манкай. Гэтак, сэкта вахабітаў ператварылася ў альфу і амэгу быцьця славянскай расы. Як для крышнаіта мантры, гэтак для нас паўсядзённая барацьба зь віртуальнымі вахабітамі напаўняе сэнсам уласную экзыстэнцыю. Нашу трывогу лёгка зразумець: мы цудоўна ведаем, што нясе вахабітызм простым людзям.

Уявіце, што на кожную Гюльчатай будзе нацягнутая паранджа. Прыкіньце пасьля гэтага папсовыя хіты «Ну где же вы, девчонки, – длинныя паранджонки». На тэлеку адразу будзе ўведзеная татальная цэнзура на «гэта». Ня тое што Алене Ханзе зь яе эратаманамі, нават фізручцы Тацьцяне Наважылавай прыйдзецца перакваліфікавацца ў хатніх гаспадыняў і навучыцца націраць да сонечнага бляску чаны. Нажаль, грамадзтва працягвае спаць у шапку. На днях у нашу рэдакцыю паступіў сыгнал ад пэнсіянэра Радуева, які выкрыў у мясцовым кніжным магазіне буйную партыю вахабіцкай літаратуры. Кніжкі з правакацыйнай назвай «Старык Хатабыч» прызначаліся, згодна анатацыі на фарзацы, дзецям малодшага школьнага ўзросту. Што ж прапагандуе аўтар Хатабыча, нехта Лазар Лагін-аглы?




*З Нацыянальнай бібліятэкі ўжо вынятыя крамольныя друкі Лагіна*

Паводле сюжэту, нейкі хачык Хатабыч пасяляецца без рэгістрацыі ў Маскве, каб літаральна тэрарызаваць простых расіянаў. Як яшчэ можна назваць ягоныя выкідоны – дэбош у цырку, зрыў адказнага футбольнага матчу, псаваньне тэлефонных апаратаў і г.д.? Асаблівую і амаль сакральную каштоўнасьць уяўляе для Хатабыча ягоная барада – яшчэ адзін важны матыў на карысьць вэрсіі, што з-за лічыны Хатабыча тырчыць несымпатычнае мурло барадатага вахабіта.

Дзецям-чытачам пры гэтым падсьвядома ўціраецца, што Хатабыч – «добры джын», якога ўлады ня здольныя замачыць. Прачытаўшы такую галімацьцю, карапузы губляюць усялякую пільнасьць. Цяпер, сустрэўшы на вуліцы нейкага урюка, яны не пабягуць стучаць у бліжэйшы пункт аховы парадку, а ахвотна дапамогуць паднесьці мяхі да бліжэйшага падвалу. У якасьці прэвэнтыўнай контармеры мы рэкамэндуем усім мамашам зрабіць зачыстку ў хатніх бібліятэках на прадмет згаданага чытва

**Волька Кастылькоў**

## ТэрмінОва ўнУмар

### Нашы таварышы за кратамі

Сьляпая дзеўка Фэміда вырашыла чарговы раз занесьці свой караючы меч над галовамі бесклапотных супрацоўнікаў газэты *Навінкі*. На гэты раз свой зьвярыны ашчэр вырашыў прадэманстраваць менскі АМАП. 17 кастрычніка падчас выкананьня рэдакцыйнага заданьня на вул. Першамайскай органамі МУС былі затрыманыя два супрацоўнікі газэты *Навінкі* Насьця Неказакава і Зьміцер Юркевіч. У тойсама дзень чатырма невядомымі тыпамі ў цывільным быў зьбіты Мікола Салавей.

Гнеў і сьвятую нянавісьць могуць выклікаць гэтыя вапіюшчыя факты парушэньня правоў работнікаў СМІ. Калі ўлічыць той факт, што нашы таварышы намагаліся стрымаць разьюшаны натоўп, заклікалі пайсьці на тратуары, адбіралі й выкідалі каменьні з рук маніфэстантаў, то становіцца цалкам незразумелым, **за што былі затрыманыя Насьця і Мітрыч.**

Мы заклікаем усіх нашых чытачоў да садлідарнасьці з арыштаванымі супрацоўнікамі газэты *Навінкі*. Зачыншчыкі масавых беспарадкаў і зачыстак мусяць адказаць за свае супрацьпраўныя дзеяньні!

**P.S.**

На момант здачы нумару 18.10 а 10-ай гадзіне раніцы нам стала вядома, што Насьця Неказакава была адпушчаная толькі а 5-ай раніцы. Зьміцера Юркевіча чакае суд.

**20 хвілінаў да матчу. А тым часам ва ўкраінскай вёсцы Тымчынкі...**




**10-я хв. гульні. У Маскве...**




**23-я хв. гульні. На расейска-ўкраінскай мяжы...**






У знакамітай «двойцы» (інтэрнат БДУ №2 па вул. Кастрычніцкай) амаль месяц не было сьвятла, газу і вады. У тойсама час камэндантка інтэрнату пераходзіла на другі ўзровень гульні DOOM на сваім звышновым пэнтыюму.
Студэнтам засталося толькі бухаць...

# Купюра з «сакрэтам»

***Новая пяцімільённая паперка, мае надзейную абарону ад падробак***




Пяцімільённы разьліковы білет Нацыянальнага банку ўжо атрымаў у народзе назву «лыжнік» з-за адпаведнага вадзяного знаку на белым полі. Аднак ня кожны ведае, што на купюры прысутнічае яшчэ адзін лыжнік. Угледзьцеся ў пэйзаж Раўбічаў праз павелічальнае шкло... ●

# Подзьвіг разьведчыка

## *Прыватны дзёньнік грамадзяніна З.*

**22 верасьня 1999**. Заданьне рэдакцыі – зь месца асьвятліць баявыя дзеяньні ў Дагестане, бо маскоўскай дэзе шэф больш не давярае. Заўтра – у дарогу. Народу трэба толькі праўда!

**23 верасьня**. Дагестан. Натурныя здымкі. Лячу на самалёце, азіраючы горы. Благадаць!.. І тут з усходу – пяць чорных кропак. Чачэнскія «мэсеры»! А ў мяне ніякай зброі, акрамя грамадзянскага сумленьня. Думаю: вось табе і рэзананс, кранты мне, пяць вахабітаў на аднаго незалежнага журналіста... Прападаць, дык з музыкай – іду на таран. «ХРАСЬ!» – і першы баявік ідзе ў крывавае піке. «КРЭКСЬ, БАЦ!!!» – і яшчэ два авіяэкстрэмісты атрымалі па заслугах. За Расейска-Беларускі Саюз! Ура!.. Я зьнішчаю чацьвертага барадача, і тут кулямётная чарга прашывае бэнзабак. Рука сутаргава пацягнулася да рычага катапульты...

**24 верасьня**, раніца. Ну ўсё, ногі больш ня слухаюцца. Але я сапраўдны герой, таму прыйдзецца паўзьці. Я мушу, мушу данесьці да гледачоў праўду аб гэтай вайне!.. Прыйдзецца харчавацца травой і грызьці кару маладых дрэваў, але я прарвуся.

**25 верасьня**. Вось і яны, братнія расейскія салдаты. Я не разьбіраю словаў, але беспамылкова пазнаю родны славянскі говар... З апошніх сілаў падымаюся і радасна крычу ім: «Рускія!» «Урускія! Урускія!» – рэхам разносіцца ў адказ. Кулямётныя чэргі з грукатам зразаюць кусты, побач рвецца граната, салдаты разьбягаюцца ў розныя бакі. Ці то гэта радасьць ад сустрэчы саюзьніка? Ці так баяцца вострага й бескампраміснага журналісцкага пяра?

**26 верасьня**, поўдзень. Сонца стаіць высока, і я схаваўся пад куст, каб дачакацца цемры. Накідваю чарнавікі для наступнай перадачы. Працуецца лёгка й вясёла, пляную сэрыю пуцявых замалёвак, эксклюзыўны рэпаратаж. Назаву яго... ну, напрыклад, «Аповесьць аб сапраўдным чалавеку».

**28 верасьня**. Учора запоўз у горы і ледзь ня здох з голаду, бо трава там не расьце. Калі паспрабаваў капаць карэньні, разадраў рукі да крыві... Толькі дзякуючы шчырай і самаадданай працы атрымалася зноў выпаўзьці на раўніну. Арыентуюся па верталётах. Апошнія дні іх лётае шмат. Фэдэральная зямля недзе побач...

**29 верасьня**, зона кантролю фэдэральных войскаў. Сустрэча з абмежаваным вайсковым кантынгентам на Паўночным Каўказе апынулася далёка не такой цёплай, як чакалася. «Што, сука вахабіцкая, бараду згаліў?» – сардэчна прывіталі мяне салдаты братняга расейскага войску на пяты дзень блуканьня па гарах. Ніякія тлумачэньні, што я шчыры інтэгратар і праваслаўны беларус, не дапамаглі – прыйшлося перажыць некалькі непрыемных хвілінаў. Ох, цяжкія братнія абдымкі!.. Але ж маладых хлопцаў можна зразумець – яны проста старанна абараняюць радзіму ад пранікненьня тэрарыстаў... Урэшце я пакідаю гераічную зямлю з пачуцьцём небывалай палёгкі й глыбокага задавальненьня.

**3 кастрычніка**. Беларусь. У родную тэлестудыю я ўпаўзаю як герой... Запальваюцца сафіты, рэжысэр дае адмашку, і я пачынаю расповяд аб сапраўднай мужнасьці. Сапраўды, ня кожны звычайны грамадзянін на такое здольны! У час, калі невядомыя ісламісты зьнішчылі эскадрылію расейскіх самалётаў, я адзін мужна даваў сэпаратыстам паветраны бой. Я тыдзень гераічна выходзіў з чачэнскага акружэньня. І нават, можна сказаць, асабіста прыняў удзел у апэрацыі «санітарны кардон»! Вось ён, сапраўдны славянскі гераізм! Такая эскапада цягне як мінімум на мэдаль – неабвержаны факт. Я сьціпла ўяўляю, як наступнай нядзеляй зьяўлюся на экране тэлевізару з мэдалём... ●

*Махачкала–Гарагорск–Менск*



## Узнагарода знайшла героя!

Вядомы незалежны журналіст Аляксандар Зімоўскі атрымаў з рук Прэзыдэнта заслужаную ўзнагароду – Ордэн «За заслугі перад Айчынай» ІІІ-яй ступені.
Сваёй самаадданай працай, беззаветным служэньнем праўдзе А.Зімоўскі дасягнуў даляглядаў інфармацыйнай аналітычнасьці, стаў прыкладам для ўсіх работнікаў СМІ.



# Балівар ня вынесе дваіх

## *Наваяўленая «Маці славянаў» кідае выклік Бацьку*

Неяк бэрмудна на душы за будучыню роднага Прэзыдэнта. На кон пастаўленая аснова асноваў беларускага канстытуцыйнага парадку.

Будзем казаць як на духу: галоўная фішка нашага рэжыму заснаваная на пэрсанальным унікуме ягонага лідэра. Чым займаецца асноўная маса посткамуністычных палітыкаўдодзікаў? Робяць з народу нейкага даўна, адаптуючы на родную глебу замарочкі заходняй паліталёгіі, па тыпу там кансэнсус, плюралізм ды іншыя брахмапутры. Дрочка адным словам. На гэтым фоне наш барын – арыгінал, якому эўрапейскія нават у падмёткі ня коцяць. Нездарма славянская папуляцыя лічыць Лукашэнку ў фанэру сваім і ловіць глюк.

Але хмары зацягваюць неба над комплексам Драздды. На суседняй Украіне ўздымае галаву нейкая Натальля Вітрэнка, кандыдат у іхныя прэзыдэнты ад «прагрэсіўных сацыялістаў». Па сваіх выкідонах яна яўна косіць пад ППРБ, намагаючыся падняць палітычны капітал на бацькавай спадчыне.

Гэтак, нядаўна плягіятарка выступіла зь передвыбарчымі тэзысамі. У прыватнасьці, яна трымае базар, што бартане МВФ з Украіны, пашарсьціць усіх бізнэсмэнаў, а фраера Кучму адашле гарбаціць на ўранавы лесапавал. І гэта не галімыя панты. Некалькі разоў гэтая амазонка ўжо гасілася з «рухаўцамі» прама ў залі Вярхоўнай Рады і нават захранячыла нагою пад акведук дэпутату-самцу ад УНА-УНСО. А вазьміце апошнія навіны з Днепрапятроўска, дзе пад Вітрэнка спрабавалі падкласьці фугасіну. Дык гэта ж украінскі аналяг стрэлу пад Лёзнам. Пасьля таго замаху кожны беларускі выбаршчык спачуваў Рыгоравічу і прагнуў адпомсьціць за пакутніка перадвыбарчым бюлеценем. Ня дзіўна, што пасьля згаданых падзей украінскі электарат таксама разьзявіў хлябала. Паводле апошніх зьвестак, Вітрэнка стабільна ўтрымлівае другое месца ў рэйтынгу кандыдатаў у прэзыдэнты Ўкраіны, маючы 17% і дыхаючы Кучму (19%) літаральна ў патыліцу. Гэта сур'ёзна пагражае нашым авангардным пазыцыям у славянскім сьвеце. Разваліўшыся ў яшчэ цёпленькім пасьля Кучмы прэзыдэнцкім крэсьле, гэткая бімса як Вітрэнка будзе ляпіць зь сябе новую славянскую маму. Чым чраваты такі варыянт для нас, ня цяжка ўявіць. Славяне па-просту канчаткова заблытаюцца ў сваіх сапраўдных лідэрах. Нам жа застаецца толькі маліцца й спадзявацца на Кучму, украінскіх дэмакратаў і праклятыя МВФ ●

**Павал Карназыцкі,**
Кіеў

**Расейцы забіваюць гол. А тым часам у Барвісе...**




**Украінцы зраўнялі лік. А...**



## МАРШ

# А гэта ўжо ня сьмешна!

### *Саюзны дагавор аказаўся лазейкай для палітычных прайдзісьветаў*




**Куток палітычнага дылетанта.**

1. Вінцук Вячорка; 2. Аляксандар Лябедзька; 3. Мікола Статкевіч; 4. Зьміцер Бандарэнка; 5. Зянон Пазьняк; 6. Сямён Шарэцкі; 7. Станіслаў Шушкевіч.

# «Рэзананс»...

Са стар. 1

лягерах і за ўсё гэта яшчэ атрымліваюць бабло ў валюце!!!

Ня цяжка змадэляваць рэакцыю закамплексаванага падлетка на палітычную рэкляму. «Тое, што доктар прапісаў!» – крычыць маладзён і імчыць на Варвашэні-8 у абдымкі Севярынца. Ня дзіўна, што пасьля такіх рэпартажаў Зімоўскага, кіданьне каменьняў у міліцыю стала сярод маладых беларусаў амаль знакам генэрацыйнай самаідэнтыфікацыі.

Зімоўскаму варта было б радыкальна перагрузіць форму падачы інфармацыі, каб своечасова нэўтралізаваць круты імідж апазыцыі ў вачах юнакоў. Рапарт аб мясарубцы 17 кастрычніка павінен быў бы гучаць прыкладна гэтак: «Сёньня ў Менску апазыцыянэры ладзілі нейкую там акцыю. НТВ і ОРТ раскідваюць пальцамі, што гэта былі крутыя беспарадкі. Ха-ха-ха! Адкуль у іх грошы, каб рабіць беспарадкі? У іх няма нават зелені, каб нармалёвых баевікоў натрэніраваць! Таму на дэманстрацыі ходзяць лахі кшталту студэнтаў, рабочых і інтэлігентаў. А хіба яны здольныя крутое мачылава арганізаваць? Возьмем на прыклад, кіданьне каменьняў на вул.Першамайскай. Гэта яны называюць кіданьне каменьняў? Так, балаўство нейкае. Паводле зводкі МУС палова каменьняў нават не даляцела да амапаўскіх кардонаў. Вось калі б месцы апазыцыянэраў быў Сева Янчэўскі з камандай з БПСМ, яны б гэты АМАП як шчаглоў пакацілі. Вядома ж – крутая бэпээсэмаўская банда. А тут – дзіцячы утраньнік. Поўны адстой!»

Таму насьцярожвае, што на БТ не заўважаюць гэтай акалічнасьці. Пытаньне напрошваецца само па сабе: на каго працуе Зімоўскі? ●

«Пасьмешышча» – гэтак трапна і едка ахарактарызаваў Прэзыдэнт праект саюзнага дагавора, распрацаванага ў Маскве. І сапраўды, ён не памыліўся. Не пасьпелі суботнія газэты апублікаваць згаданы дакумэнт, нібыта «для ўсенароднага абмеркаваньня», як уся краіна схапілася за жывоцікі. Што там КВН, Маскі-шоў і Петрасян! Ідэя саюзнай дзяржавы з агульнай валютай, грамадзянствам і двума прэзыдэнтамі куды прыкольней за барадатыя хохмы тэлескамарохаў.

Аднак ня толькі трапны гумар і здаровы сьмех прынес нам Саюз. Не пасьпелі братнія краіны злучыцца ў аб'яднаўчым экстазе, як зьявіліся й першыя трывожныя сымптомы. Раней за ўсіх плюсы інтэграцыі адчулі беларускія палітычныя авантурысты.

Вал падрыўной літаратуры хлынуў праз саюзьніцкую мяжу. Тоны ўлётак, налепак, значкаў і іншай прадукцыі правакуюць грамадзянаў на ўдзел у «Маршы Свабоды» і нават адкрыта абражаюць кіраўніка нашай дзяржавы.

Узяць хаця б агідную падзелку «В семье не без урода». Тое, што нашага Прэзыдэнта параўноўваюць зь нейкім прыматам, гэта яшчэ паўбяды – ну ня лаўраў жа чакаць ад палітычных апанэнтаў.




**Такую вось абразьлівую для кожнага беларуса паперчыну нарадзілі на сьвет расейскія «саюзьнічкі»**

Поўнай абразай зьяўляецца іншае. На выходных дадзеных пазначана, што гэтая паперка надрукаваная канторай са зьдзеклівай назвай «Славия» на Смаленскай тыпаграфіі. І надрукаваная абсалютна легальна! Прынятая па безнаяўным разьліку ў расейскіх рублях, адпушчаная па накладных, заплочаныя падаткі ў расейскі бюджэт.

Трэба чакаць, у хуткім часе недзе ў Туле у сэрыі «Русский бестселлер» выйдзе поўны збор сачыненьняў фашыстоўскага прыхвасьня Янкі Станкевіча, песьняра генацыду рускага народу, або на студыі «Союз» выйдзе кампакт Данчыка.

Дык пра які саюз можа далей ісьці гаворка, калі расейскі бок ужо сёньня за жалкія падачкі экстрэмістаў гатовы прадаць ня тое што свайго партнэра – Крэмль з Барвіхай у прыдачу! Вось табе, бацька, і Юр'еў дзень ●

**Уладзімер Заграбалін**
























# Шчасьлівы званок

«...Патэлефануй дзесяці сваім знаёмым, якім надакучыла жыць пры дыктатуры. Калі кожны з нас прывядзе па дзесяць сяброў , то...»

А чацьвертай гадзіне раніцы мяне каторы раз падымае тэлефонны званок. Яшчэ адзін сябар, запінаючыся, пытаецца пра жыцьцё і запрашае схадзіць на «Марш Свабоды»... Мацюкаюся, кідаю слухаўку і адключаю тэлефон.
Якую ўжо ноч няма спакою ад тэлефонных тэрарыстаў! А ўся справа ў залішняй усэрнасьці арганізатараў памянёнага маршу.
У імкненьні зацягнуць да сябе як мага больш людзей, яны прыбягаюць да самых нестандартных мэтадаў. На рэйкі барацьбы з «рэжымам» пераводзяцца самыя дзікія дасягненьні чалавечай мысьлі. Прычым ня грэбуюць і адкравенным плягіятам.
Перад вамі на здымку гэтак званая «ўлётка шчасьця». Вы яшчэ не даставалі яе з паштовай скрынкі? Значыцца, вы даўно не глядзелі пошту!

***Хваля тэлефоннага хуліганства накрыла сталіцу напярэдадні «Маршу Свабоды»***

**Волна Свободы**

Власть боится свободного слова и правдивой информации. **Режим может закрыть независимые газеты, не допускать правду на радио и телевидение, но он не может запретить нам общаться с друзьями.**

**Если тебе не все равно, каким будет твое будущее, — приходи на «Марш свободы»!**

Если тебе не все равно, каким будет будущее твоей страны, — **позвони по телефону десяти своим знакомым**, которым надоело жить при диктатуре. А таковых только в Минске более 800 000 человек. Большинство граждан не выходит на массовые акции только лишь потому, что не знает об их проведении.

У каждого из нас есть минимум десять друзей и знакомых, которые разделяют наши взгляды. Позвони им и пригласи на «Марш свободы».

Если с каждым из нас придут по десять друзей, — на улицы выйдет весь город.

ЗВОНИТЕ И ПРИХОДИТЕ!

У тэксьце ўлёткі даверлівым і малапісьменным грамадзянам прапануецца неадкладна патэлефанаваць дзесяці бліжэйшым сябрам і запрасіць іх на апазыцыйны «Марш Свабоды». Сябры мусяць паўтарыць няхітрую апэрацыю па наборы нумару. «І тады», – абяцае ўлётка, – «на нашую зямлю прыйдзе вялікае шчасьце, настане працьвітаньне і благадзенства». А калі скептычны абанэнт аслухаецца голасу разуму, то «ў крамах зьнікне хлеб, піва і гарэлка, павялічацца запазычанасьці па зарплаце, і гарэць табе, лукашысцкая сволач, у геене вогненнай!» – канстатуе ўлётка. Асабліва прадвінутым прапануецца перапісаць дакумэнт 20 разоў і разаслаць на розныя адрасы. Легкаверныя пэнсіянэры ахвотна кідаюцца выконваць загады авантурыстаў, нават не задумваючыся, ў чым жа тут прыкол.
Такія маніпуляцыі шырока практыкаваліся місіянэрамі рэлігійных сэктаў, у прыватнасьці беларускім аддзяленьнем «Аум Сэнрыкё» Фрунзенскага раёну. Падчыніўшы сабе волю адрасатаў, сэктанты хутка прымушалі слабавольных грамадзянаў пералічваць на свае рахункі несусьветныя сумы, зьдзяйсьняць тэракты і г.д.
Сёньня гэтыя дэструктыўныя тэхналёгіі ўзяла на сваё ўзбраеньне апазыцыя. А што будзе пасьлязаўтра, ніхто ня возьмецца нават прадказаць..

**Сёку Асахары**

## *ГэтыдзЕньугістОрыі*

### 17 кастрычніка

**1410**
Беларускія рыцары-фэдэралы правялі зачыстку аулу Грунвальд ад крыжацкіх баевікоў. На тэрыторыі Прусіі адноўленае дзеяньне Беларускага Звычаёвага Права.

**1569**
Лідэрамі ВКЛ і РП пасьля агульнашляхецкага абмеркаваньня падпісаны дагавор аб утварэньні саюзнай дзяржавы.

**1701**
У Полацку ў выніку тэракту быў узарваны славуты Сафійскі сабор. Выбух паводле сілы быў роўны 30 пудам дымнага пораху. Пад абломкамі загінула 137 манашак. Падазраюцца твары маскоўскай нацыянальнасьці.

**1863**
Перагаворны працэс паміж царскім урадам і апазыцыяй поўнасьцю праваліўся. Пачалася «Віленская вясна'63».

**1905**
Пасьля шматтысячнага Хроснага Ходу Свабоды расейскі імпэратар Мікалай II, спужаўшыся нарастаньня апазыцыйных настрояў у грамадзтве, выдаў «Маніфэст аб дараваньні свабодаў».

СУТАЧНЫ БІЛЕТ НА ПРАЕЗД
ІЛЬГОТНЫ МІНСК
МУС ✻ 004134
ВАРАНОК
17 КАСТРЫЧНІКА 1999 50%
Пры пакупцы білета правярайце на прасвет наяўнасьць вадзяных знакаў

## *АбанэмЭнт*

### Праязны для апазыцыянэра

Да якіх толькі выкрутасаў не прыбеглі «барацьбіты з дыктатурай», каб зацягнуць на Бангалор як мага болей народу, нават ня думаючы пра наступствы сваіх дзеяньняў. Але кожны мала-мальску пісьменны чалавек можа ўявіць, што вялікая колькасьць людзей, асабліва ў цэнтры гораду, стварае вялікую праблему для гарадзкога грамадзкага транспарту: тралейбусы забітыя, у аўтобусы ня ўлезьці. А што можа быць страшней за абываценя, які не атрымаў свайго месца на колах?
За вырашэньне транспартнай праблемы, дзякуй богу, узяліся ў Менгарвыканкаме, дакладней ваЎправе абароны грамадзкага парадку г. Менску. Было прынятае геніяльнае рашэньне: да развозу грамадзянаў зь месца правядзеньня мітынгу будуць падключаныя транспартныя адзінкі МУС.
Вядома ж, ніхто за дзякуй вас на маторы не пракоціць. Таму арганізатарам было прапанавана распаўсюдзіць сярод удзельнікаў акцыі адмысловыя праязныя білеты, якія даюць права праезду ў міліцэйскім «варанку».
Сутачны праязны білет служыць адначасова абанэмэнтным талёнам на харчаваньне на тэрмін да 15 сутак.
Такія праязныя білеты ўжо былі знойдзеныя ў кішэнях затрыманых падчас рубілава на Першамайскай. Шчасьлівыя ўладальнікі зь вецяркром былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёну.

Хлопцы, хадзіце да нас! Мы змагаемся за дэмакратыю! Толькі разам мы пераможам!
За дэмакратыю, ты-ты толькі за бабкі!
За дэмакратыю? За ўдзел — сотка, за кожны транспарант — бутэлька, а напрыканцы шэсьця...
...толыя цёлкі!
Бат-Хэд, гэты кактэйль — поўны ластой!
Глядзі, ёлупень, ОМОН. А мы з табой, па цыпу, натрэніраваныя адмарозкі!
МІЛІЦЫЯ
Паважаныя грамадзяне! Перапанаўча просім вас не марудзячы разысьціся!..
Эй, Бівіс, прыкаліся, мы — вязьні сумленьня!
У Амэрыку! Крута!

*Рэалізуецца за наяўны і безнаяўны разлік арганізатарамі "Маршу Свабоды" па цане, зацверджанай Міністэрствам унутраных спраў.*

*Прыгодны для праезду на абазначаным відзе транспарту на працягу ўказанага тэрміну ў адзін бок.*

*Права на бясплатны правоз багажу (сцягоў, транспарантаў і г.д.) не дае.*

*Пры страце падчас дэманстрацыі не ўзнаўляецца.*

*Назад прымаецца разам з уладальнікам.*

*Абменьваецца на тэрмін ад 3 да 15 сутак.*

## *Сусьветны рок супраць Беларусі*

Напрыканцы верасьня нейкія хакеры-самавукі разаслалі на адрасы Metallica, Rolling Stones, U2, Deep Purple, Offspring і іншых сусьветна вядомых гуртоў заклікі прыняць удзел у фэсьце «Рок за Беларусь». Патрабавалася ад монстраў року ні больш ні менш як прыехаць у Менск і на халяву адыграць сэйшн на плошчы Незалежнасьці падчас недазволенага мітынгу. Увіце сабе, як лідэр Offspring нацягвае мянту шлём на плечы, а Мік Джагер курчыцца на сцэне ў расьпеўках кшталту «Беларусь ў Эўропу, Лу..ку ў ж..пу! C'mon!!!» Ад аднаго толькі ўяўленьня гэтага відовішча ў бывалага мэламана перахапляе дух. Дыназаўрам року круцейшага прамоўшну й прысьніцца не магло. А якая б гэта была незабыўная падзея для менскіх мэламанаў!..

Расьследаваньне паказала, што е-майлы сп'яну адпраўлялі нехта Sakharau і Supranovich. Хто хаваецца пад гэтымі псэўданімамі, галаву ламаць не прыйшлося. І вось аднойчы, добра прыняўшы, парачка вырашыла зрабіць супэр-канцэрт пад эгідай БМА. Велічыня рок-зорак іх ні кроплі не засмуціла: «А што, Касю запрашалі, ...уё-маё, дык і Джагера нам як не.. на!..»

Вынікам сталі пранікнёныя электронныя звароты аб задушэньні дэмакратыі й татальным падыханьні рок-культуры, якія нібыта маюць месца ў нашай краіне. Пры гэтым яны подла замоўчалі пра штогадовы «Славянскі базар» і апошні конкурс самадзейнасьці «Зорная Ростань». Здавалася б, запаветная ідэя ўжо блізкая да рэалізацыі. Але ўсё абламалася з-за саміх «спрытных запрашальнікаў». Гэтак, званыя «патрыёты», а па-просту кажучы – лахі, у факсах ды е-майлах напісалі назву нашай краіны як «White Russia». Закардонныя музыкі, маючы па чатыры клясы пачатковай школы на траіх, вядома ж, слыхам ня слыхівалі пра такую краіну.

Пакапаўшыся з суткі ў Інтэрнэце, «зоркі» прыйшлі да непазьбежнай, але заканамернай высновы: ім прапануецца ўдзел у рэкламнай акцыі гарэлкі «Белая Русь». «Патрыярхі року», якія даўно маюць па язве страўніку ды цырозу пячонкі, завязалі з бухлом яшчэ недзе напачатку 80-х. Гэта было расцэнена як здзек. Цяпер на сайце БМА-group можна паглядзець (усяго за $2.99!) унікальныя цытаты Міка Джагера («Fuck you and your vodka! Mick Jagger»), Джэймса Хэтфілда ( «Fuck off with your green snake! J.Hatfield» ) і іншыя «эксклюзіўныя інтэрвію». А нашая краіна засталася ўбаку ад сусьветных рок-турнэ яшчэ як мінімум гадоў на дзесяць. Вось так нас ізноў пакінулі за бортам сусьветнай культуры.

## *Хіт сэзону*




Новая 90-хвілінная касэта выйшла надаўна ў вядомай гуказапісвальнай карпарацыі «Союз».

Варта адзначыць, выдаўцы прыпазьніліся з выпускам гэтага альбому.

Маркуйце самі, каму зараз цікавыя імправізаваныя праходы крошкі-Більлі, тым больш пасьля выхаду цэлай кіпы альбомаў з вакалам Монікі, дзе само вымаўленьне галосных, кшталту «А-а-а, о-о-о, ес, ес!» вырубае кожнага аматара сэксу праз тэлефон.

Аднак альбом «Sax&Sex» бярэ сваё тым, што на ім прадстаўлены такія вядомыя кампазыцыі, як «Правы чалавека», «Свабодны рынак», «Бамбім Мілошавіча» і іншыя рэчы, якія, праўда, ужо набілі аскоміну апошняму мэламану.

Касэта скіраваная на шырокае кола слухачоў, асабліва прадэмакратычных настрояў, якія мецяць у прэзыдэнцкае крэсла. Але, маркуючы па рэалізацыі касэты, дэмакратыя ўсё менш і менш у модзе.

## *На бескантрольны анархісцкі шабаш пакладзены бескампрамісны канец*

# «Сьвінному Рылу» далі ў рыла



– Вы што, абарзелі? Адчынілі ў цэнтры гораду клюб, а нам не забашлялі?! Жэўжык будзе не задаволены!!! – двое квадратных гангстэраў трымалі за ногі зьвешанага з даху 40-павярховага хмарачосу адміністратара клюбу «Сьвінное рыла».

– 20 % ад выручкі і ня цэнту болей! – адміністратар Алекс быў жалезным хлопцам.

– Ды ён сьмяецца з нас! – бандзюгі ў разгубленасьці разьвялі рукамі, Алекс пачаў свой палёт да зямлі.

А тым часам грамілы Жэўжыка разьбіраліся ў клюбе з аховай і наведнікамі. У паветры яўна запахла смажаным.

– Мы, анархісты, не прызнаем грошай як плацёжных сродак! – горда заявіў сіваваласы вэтэран эстрады Чыканас, выхопліваючы з-за поясу свой верны мачэтэ.

– А ці прызнаеш ты маю верную «Бэрэту», шчанюк? – рэкецір выцягнуў з кішэняў адыдасаўскіх штаноў ствол 45-га калібру. Анархісты выхапілі свае іржавыя маўзэры і абрэзы...

...Бясстрашны адміністратар Алекс тым часам пралятаў дваццаты паверх. «Як паведаміць таварышам пра засаду?» – мітусілася шалёная думка...

– Хлопчыкі, спыніцеся! Колькі можна шаліць? – гаспадыня інтэлектуальнага салуну «Кавалерыя», якая неасьцярожна прыгрэла ў сябе на левай грудзі сьвінарылую анархісцкую гідру, увайшла ў залю, дзе насьпявала крывавая разборка. І адразу бутэлька слаўнага «Крыжачку» ў экстазе праляцела над ейнай галавой і разьбілася аб табло тапёра.

– Не чапайце піяніста, ён грае, як можа!

...Выкінуты Алекс, пралятаючы дзясяты паверх, спытаў у грамадзяніна, які выйшаў папаліць на балкон:

– Мужык, кінь цыгарэту! Памрэш ад раку лёгкіх!

Мужык разьзявіў ад зьдзіўленьня сваю ляпу, выраніўшы акурак, які, абганяючы Алекса, паляцеў уніз. Недапалены бычок трапіў у пары расьцеклага з разьбітай бутэлькі «Крыжачку». Раздаўся страшэнны апакаліптычны выбух.

Адміністратар Алекс прызямліўся на тратуар ля клюбу і крыху падрапаў свой твар. «Сьвіное рыла» палыхала, як грозьненская нафтабаза. Даносіліся візглівыя енкі і мальба аб дапамозе. З падвалу выпаўз апалены Чыканас, з выратаваным чырвона-чорным сьцягам у зубах.

– Кантора пагарэла, трэба шукаць новае месца, – невазмуцімы адміністратар падняўся з асфальту і накіраваўся на пошукі ●

**Ліманадны Джо**

# «...Каўтун у валасах»

## Клясычная нацыянальная хвароба беларусаў радыкальным чынам вырашыла лёс сусьветнай музыкі

Праяжджаючы неяк праз ваколіцы Ліды, я нечакана затрымаўся ў вёсцы пад дзіўнай і загадкавай назвай Каўтуны. На першы погляд вёсачка была падобнай на ўсе астатнія заходнебеларускія вёскі: касьцёл ў цэнтры з польскім ксяндзом, які пачынае імшу словамі: «Божа, уратуй нас ад камуністаў», у краме гарэлка «Полька», цэнтральная вуліца імя Яна Паўла II, мясцовыя жлабы са значкамі Пілсудскага ды надпіс на хлебнай краме «Sklep spozywczy». Прадаўшчыца ў гэтай краме, Аўдоцьця Браневіч, пакуль я набываў «Польку», расказала пра назву вёскі наступную мясцовую гісторыю.

Аказалася, што назва вёскі вядзе свой радавод з часоў вялікага князя Ягайлы. У жыхароў вёскі былі самыя прыгожыя валасы ва ўсім княстве. Таму й вёска ў даўніну звалася інačaй – «Вялікія Кудлацікі». Замежныя манархі былі згодныя плаціць не адну тысячу бакаў, каб толькі займець гэтыя валасы сабе на парык. Згодна зь легендай, сам Ягайла, даведаўшыся пра гэта, вырашыў завітаць сюды і пашалець зь мясцовымі прыгажунямі ў адсутнасьць каралевы Ядзьвігі.

Але ж вядзьмарка, што жыла ў вёсцы побач, назва якой Лысякі, ад зайздрасьці вырашыла кінуць замову. І вось уначы перад прыездам князя падняўся віхор,якога сьвет ня бачыў, пазьбіваў у каўтуны валасы прыгажуням-дзеўкам, якія, вядома, кінуліся на двор здымаць мокрую бялізну. Ранiцай князь, пабачыўшы мясцовых дзяўчат, прамовіў нешта па-літоўску пра іхную маці, харкнуў на глебу і скончыў на чыстай лаціне: «Жыць гэтай вёсцы пад назвай Каўтуны!».

– І ведаеце, – працягвала Аўдоцьця Вільгельмаўна, – з таго часу ў вёсцы час ад часу нараджаюцца дзеці з валасамі, якім што ні рабі, ўсё адно ў каўтуны зьбіваюцца. Вось памятаю, недзе за польскім часам, у трыццатыя гады, у Ясінскіх нарадзіўся такі хлопчык... І што ягоныя бацькі ні рабілі: і да цырульніка, і да шаптухі вазілі, а ўсё адно адрастаюць валасы сантымэтраў пяць і адразу ў каўтуны зьбіваюцца.

Ды й сам хлопчык нейкі дзіўны рос: увесь вольны час сядзеў у каноплях ля плоту. Што ён там рабіў, ніхто ня ведае, мабыць з запалкамі гуляўся, бо дым па ўсёй вёсцы йшоў. Ды аднойчы дазабаўляўся, што гумно Акінчыцам спаліў. Яго ўся вёска Бармалеем называла.



Трактарыст Хведар і мэліяратар Юзік памятаюць свайго дзядзьку Вову

Каб хоць нечым дзіця заняць, бацькі завялі яго да Францішкоўскага, п'яніцы апошняга, каб той навучыў яго на гітары граць. А зь яго такі настаўнік, як з чарнасоценца баптыст. Той на вясельлях хаўтурыў. Закладзе бывала за каўнер, і які зь яго музыка – адно рыгае. А потым з бадуна рукі гэтак калоцяцца, што толькі з другога разу па струнах трапляў. Вось і вучылася ў такога музыкі беднае дзіцятка. А ў 39-ым, як да нас калгасы прыпаўзлі, Ясінскія выэміграваў.

Дык што б вы сабе думалі! Гадоў зь дзесяць таму ўнучак мой, Яўхімка, прыцягнуў дахаты матафон, ну, той што на касэты. І на адной вокладцы гляджу – Бармалей! Усё з тымі ж каўтунамі, толькі ж вядома пабалышэў, дый загарэўшы, як мурын. На вокладцы польскімі літарамі было напісана «Bob Marley». Відаць, і там яго Бармалеем празвалі. А як уключыў Яўхімка касэту, сьлёзы гэтак і пацякл з вачэй. Адзін у адзін пакойны Францішкоўскі! Гэтак і не навучылася беднае дзіця па гітары граць.

Выслухаўшы аповяд цёткі Аўдоцьці, да горла падкаціў нейкі камок. Падумалася: «Якіх яшчэ талентаў ты не нараджала, Маці-Беларусь!» І я прыхапіў яшчэ адну «Польку», каб успамянуць нашага славутага земляка. ●

**Янка Рыгальскі**

# У ложку з фюрэрам

## Эва Браўн Была каханкай Сталіна




«Молах», рэж. А. Сакураў. «Я хацеў Гітлера»,– сьцьвярджае чырвоны пад'есаул

Нейкія скептыкі намагаюцца прыпісаць Адольфу Шыкельгрубэру полавыя недахопы. У прыватнасьці сьцвярджаецца, што ў сэксуальнай незадаволенасьці Гітлера хаваюцца матывы ягонай паталягічнай агрэсіўнасьці і нянавісьці да ўсяго жывога. У новай стужцы Сакурава «Молах» фюрэр можа. Прычым яшчэ як! У ложку, у ваньне, на балконе, пад халадзільнікам, на прататыпах сучасных кампутараў, з гумавымі лялькамі Чэрчыля...

Фільм распавядае пра трагедыю сэксуальнага жыцьця фюрэра Трэцяга Рэйху. Аднойчы герой і ягоная каханка Эва Браўн вырашаюць заняцца неадэкватным сэксам у штольнях Швайцарыі. Аголены Адольф забіраецца на мапу ваенных дзеяньняў і захлынаецца шлейфам эратычных фантазіяў. Ён бачыць казакоў на Фрыдрыхштрасэ, чырвоны сьцяг над купалам разбуранага Рэйхстагу... Сыны стэпу ўрываюцца ў дзяржаўную канцылярыю, бяруць пад белыя ручанькі праказьніка Дольфі, нясуць на плошчу Александэрпляц ды пагружаюць у чыгунную ванну. Якая асалода! Барадатыя сібірскія пад'есаулы мыляць яму сьпінку і масіруюць молах. А міма плывуць піянэры, цягнуць чырвоныя сьцягі пад напаўзабыты матыў мыльнай опэры «Siebenzehnten Momenten von der Fruhling»...

Гітлер крычыць, атупеўшы ад звышчалавечай негі ...і прачынаецца. З гэтага дню ён больш не наведваецца ў ложак да Эвы. Алойзавіча зацьмілі трызьненьні пра таго пад'есаула Гаўрылу Потава з мазалістымі рукамі, пра яго пазногці з чарназёмнай каёмкай, ускудлачаную бараду клінышкам, казацкі чубчык, прыпарошаны россыпам серабрыстай перхаці... Фюрэр гатовы на ўсё,



каб вярнуць гэты момант. У рэшце рэшт ён наўмысна зварочвае супраціў на Ўсходнім фронце ў надзеі яшчэ раз перажыць тыя незабыўныя пачуцьці. І вось фронт падкотваецца да Бэрліну. Жукаў праводзіць генэральную зачыстку сталіцы Трэцяга Рэйху. У гэты час у бункеры Гітлер ліхаманкава чакае сваіх партнэраў. Ён чакаў гэтага моманту доўгія 4 гады. Рэйхсканцлер прыймае душ, голіць ногі, апранае пікантную топ-маечку, якую ў 1934 пасьля «ночы доўгіх хлебарэзаў» ён зьняў з штурмавіка Рэма. Прыняўшы таблетку віягры, Дольфі падае ў ложак і, прыняўшы зручную позу, чакае ў нецярпеньні прыгажуноў-пад'есаулаў. Даверлівы фюрэр! Бедалага ня ведае, што Гаўрыла Потаў, уварваўшыся ў бункер, знойдзе толькі ягоны зьледзянелы труп. Сьцерва Браўн, пакрыўджаная дэфіцытам ласкі з боку фюрэра, падмяніла калёсы віягры на цыяністы калі... Выйшла тры варыянты фільму: гістарычны, эратычны, дзіцячы і катэгорыя XXXL.●

**Вадзім Нявідзімаў**

## Кіна-эпапЭя

### Гарэлка з пахам мужыка

«Экранізацыя вядомага раману Уладзіміра Караткевіча, мяркуецца, паб'е ўсе касавыя рэкорды беларускага кіно» – упэўнена лічыць А.Азаронак, рэжысэр шматсэрыйнай эпапэі «Гарэлка з пахам мужыка». Фільм пабудаваны як клясычная ўсходне-славянская мэлядрама з любоўнымі трохкутнікамі, пэрманэнтнай п'янкай і панажоўшчынай. Сюжэт фільму геніяльна просты. Муж пасьля няўдалай дэманстрацыі вяртаецца дахаты й знаходзіць на стале адкаркаваную бутэльку «Крышталь-100». Вядома, справа тут нячыстая, бо галоўны герой, капітан міліцыі Іван Пронін, добра ведае пра дэфіцыт гарэлкі ў краіне. Пад падазрэньне трапляе сусед па лесьвічнай пляцоўцы, сябра «Хартыі'97» Майсей Заступнікаў. Да лавеласа і выпівохі прыходзіць нарад міліцыі і знаходзіць у хартыста буйную партыю антыўрадавых улётак. Разам з тым на паралельны плян выходзіць сын Проніна Хадос, які павушы ўцюрыўся ў хартыставу дачку Зосю, якая неўзабаве залятае ад Хадосава сябра, маладафронтаўца Пашы... Сачыце за праграмай тэлебачаньня!

# Адзкае пекла

## Атрад пэнсіянэраў ставіць на «счетчик» банду малагадовых панкаў




"Ястраб пустыні", ён жа Inferno («Адзкае пекла»), ён жа «У чэраве пустэльні», ён жа... Гэты сыпіс можна працягваць доўга, але усяроўна з блакітнага экрану на нас глядзіць адзін і той жа накачаны твар Жан-Клода Ван Дама

«Натоўпы фанатаў, нецярпліва вібруючы, ужо дачакаліся апошняга шэдэўра «бэльгійскага мускула» – новы супэрбаявік-каратэ рэжысэра Д.Авілдсона.

Эдзі Ломанс (Жан-Клод Ван Дам) прыбывае ў невялікае мястэчка ЗША, каб пабачыць свайго старога сябра. Раптам Эдзі заўважае, што горад захлёснуты хваляй крыміналу і заблытаны павуціньнем карупцыі, а мясцовыя жыхары знаходзяцца ў пэрманэнтным страху за сваё жыцьцё і жыцьцё сваіх блізкіх. Таму наш герой вымушаны нэйтралізаваць бандыцкія элемэнты, сеючы парадак і спакой...»

Гэткі тэкст можа знайсьці на вокладцы любы неспакушаны патэнцыйны глядач. Аднак, калі гэты глядач – Вы, не купляйцеся на гэтую качку. На самой справе фільм яшчэ лепей. Завязка стужкі – кувэйцец Эдзі – едзе за горад на ровары да свайго былога прапара – індзейца Джо, якога можна пабачыць толькі сьледуючы запаветам Карласа



Кастанэды. Мэдытуючы зь сябрам па зброі, Эдзі не заўважае, як знаходзіць у кішэнях некалькі бутэлек тэкілы. Пад пякучым сонцам Арызоны вэтэрану хапіла колькі глыткоў, каб выдзеліць сярод пустэльні купку хуліганаў, якія яўна жадаюць забраць у яго імянны ровар, падараваны Эдзі асабіста генэралам Шварцкопфам.

Валасатыя тарчкі, спрытна ўнікаючы куляў Эдзі, падабраліся на небясьпечную адлегласьць і, злавіўшы момант, піхаюць велааматара ў сьпіну. Калі Эдзі



ачухаўся, ён канстатуе зьнікненьне сябра, веліка, пісталета і 12 баксаў на падарунак гёрл-фрэндзісе на 4 ліпеня. Герой Ван Дама, сьціснуўшы ад душэўнага болю кулакі, крычыць на ўсю пустэльню густым басам: не-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е-е!!!

У яго цяпер адзін выбар – помста або набухацца. Сьляды скрадальнікаў ровараў вядуць у рэднэкаўскае мястэчка, якое панкі-наркаманы аблюбавалі пад Панікоўку. Герой, натхнёны радыёконкурсамі Маці Тэрэзы, робіць добрыя ўчынкі, вызваляючы тутэйшае насельніцтва з-пад кабалы тусоўшчыкаў. Апошнія праходу не давалі мясцовым пэнсіянэрам, цягаючы ў іх грошы на дозу «чорнага». Ня дзіўна, што састарэлыя грамадзяне запісаліся ў лятучы атрад Ван Дама. Старыя гэта: кітаец па прозьвішчу «Умелец на ўсе рукі», старуха з акуляравым удавам і стары астматык, прывязаны да крэсла-качалкі тры гады. Уся кодла бегае за Эдзі, дапамагаючы яму зьнішчаць клубную моладзь. У выніку 28 рокераў забітыя самым вычварэнскім чынам. Усе трупы, акуратна абматаныя ізалентай, скінутыя на дно самай глыбокай прорвы.

Вы спытаеце, а як жа хэпі-энд? Калі ласка. Зьнікненьне моладзі сьпісваюць на лятучыя талеркі. Адразу ў гарадку пачынаецца турыстычны бум. Старыя хутка адбіваюць бабкі, патрачаныя на ізаленту, а Эдзі, вярнуўшы свой ровар, здымае цёлку і знаёміць яе са сваім былым прапарам. І тут падкраўся хэпі-энд...●

**Вадзім Нявідзімаў**

## «ЧЫСЬЦІЛІШЧА-2»

**Шаноўны чытач! Падчас штурму Гарагорску старэйшы сяржант расейскага спэцназу Іван Пуцін выпадкова наступіў на вахабіцкую супрацьфэдэральную міну. Дапамажы яму, калі ласка, вярнуцца ў шэрагі ўзброеных сілаў, каб Ванюша працягваў зачышчаць праваслаўны Каўказ ад ісламскай навалы.**



# КАЎКАСКІ "ЦУКРОВЫ ПЕЎНІК"

АНТЫМІРОН

На запрашэньне Пуціна Анты-Мірон наведаў канфэрэнцыю чачэнскага ўраду у выгнаньні

Асалям алейкум, Доку Заўгаеў

Маю да вас справу

Апэрацыя досыць складаная. Трэба даставіць «Цукровага Пеўніка» на Казбэк

Асьцярожней! Гэта ня проста ледзянец!

Калі расеец бярэ яго ў рукі, адбываюцца няшчасьці

?!

Самалёт узяў курс на Надцерачны раён

Пакуль Анты-Мірон чакаў халяўнай выпіўкі, раптам...

Ану сыдэт! Гдэ пэўнык, біляд!

Кропкавы ўдар табе, а ня пеўніка, вахабіт няверны!

Спакуха, пеўнік у мяне!

Не!

Ты забыў пра закляцьце? Самалёт гарыць! Дай...

Бабульчыны байкі! Хапай лепш парашут

Стой, дурань! Пеўніка аддай!

Ратуйся, хто можа!

Што за херацень! Нешта мне сёньня не фарціць

Сакральная пячора Шаміля. Тут паводле легенды мусіць захоўвацца «Цукровы Пеўнік»

Сім-сім, Сэзам, адкрыйся! Ну і ты, Анты-Мірон, заходзь...

О-го!

Не, дзякуй, але я ня веру ў забабоны!

Чур, мяне!

Ну вось, місія амаль скончаная

Ты трапна сказаў «амаль»! Ну-ка лапкі ўгору...

?!

Дык гэта ж... ДАРЭНКА!!! Толькі без акуляраў...

Так!

Пеўнік у мяне! Нарэшце я расквітаюся са Сванідзэ

Ха-ха!

Лужкоў, табе капец!

Гэй! Асьцярожна, гэты пеўнік зачараваны! У цябе будзе гара непрыемнасьцяў!

БАХ!

?!

?!

«Бульчыны байкі» сапраўды дзейнічалі. Шарамета можна павіншаваць з пасадай вядучага праграмы «Время»

Чакай, я толькі «разьвітаюся» зь Пеўнікам

Вяртаемся. Замочым справу

Хутчэй, Анты-Мірон, у мяне прыпасены добры пяцізоркавы каньячок!

Ну што, «пятух»! Будзеш ведаць, як зьдзеквацца з Анты-Мірона!

Хе-хе-хе!